№19(43)
Кастрычнік 1999

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"



Мінск. Восень 1999-га. Холадна...

# Прэса пад прэсам

"Прэса пад прэсам" — загаловак, вядома, ня новы і патыхае старым журналісцкім штампам. Але што зробіш, калі ўсё нашае сёньняшняе жыцьцё пахне старым бальшавіцкім нафталінам. Усё гэта мы ўжо праходзілі. Калі не на ўроках гісторыі СССР, дык на курсах гісторыі КПСС. Усё гэта мы чыталі на старонках савецкіх газетаў, калі там хацелі паказаць як "загнівае капіталізм". Праўда, ёсьць у нас, як гэта і павінна быць, і свае асаблівасьці: вучыцца апазіцыя, вучацца і ўлады.

Некалі, вывучаючы гісторыю бальшавіцкага друку, мы шчыра (так-так!) дзівіліся вынаходлівасьці ленінцаў, якія, змагаючыся з паганай царскай "ахранкай", замест забароненай "Правды" пачыналі выпускаць "Путь Правды", потым "Голос Правды", "Дело Правды" ці неяк яшчэ мудрэй... Ніхто ня думаў тады, што вопыт бальшавікоў давядзецца на практыцы прымяняць у Беларусі.

(Працяг на стар. 2)

## Хроніка

***27 верасьня*** ў судзе Савецкага раёну г. Мінску адбылося чацьвёртае судовае пасяджэньне па адміністратыўнай справе кіраўніка Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Алега Трусава, які абвінавачваецца ў тым, што прымаў удзел у несанкцыянаваным шэсьці 27 ліпеня, прысьвечаным Дню незалежнасьці Беларусі. На першых трох пасяджэньнях справу разглядала судзьдзя суда Савецкага раёну г. Мінску І.Шэйка. На тых пасяджэньнях былі апытаныя сьведкі з боку А.Трусава, быў прагледжаны відэазапіс падзеі, які засьведчыў, што А.Трусаў не прымаў актыўнага ўдзелу ў шэсьці. На чацьвёртым пасяджэньні справа была перададзеная судзьдзі Р.Казадаеву, які ў парушэньне заканадаўства не пачаў разгляд справы з самага пачатку, а адразу выслухаў сьведку, у ролі якога традыцыйна выступаў міліцыянт. Грамадзкім абаронцам А.Трусава быў прадстаўнік Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96" Барыс Гюнтэр. Нягледзячы на доказы адваката, што А.Трусаў зьяўляецца карэспандэнтам і сябрам рэдкалегіі газеты "Наша слова" і 27 ліпеня назіраў за шэсьцем збоку, судзьдзя прызнаў Трусава вінаватым і вынес яму папярэджаньне.

***30 верасьня*** ў буйнейшых гарадах Беларусі адбыліся акцыі пратэсту, арганізаваныя афіцыйнымі і незалежнымі прафсаюзнымі арганізацыямі. У Мінску ў мітынгу, што адбыўся на плошчы Бангалор, прынялі ўдзел каля 15 тысяч працоўных, незадаволеных становішчам у краіне. Акцыя адбылася нягледзячы на ўсялякае супрацьдзеяньне ўладаў.

(Працяг на стар.6-7)

# Удар па незалежным друку

## Заява Джэймса Рубіна, прэс-сакратара Дзяржаўнага дэпартаменту ЗША

Злучаныя Штаты мяркуюць, што узрослы ў апошні час ціск на незалежную прэсу ў Беларусі ўяўляе сабою эскалацыю намаганьняў, якія накіраваныя на задушэньне свабоды слова ў парушэньне Беларусьсю сваіх абавязацельстваў у адпаведнасьці з дакументамі АБСЕ і міжнароднай дамовай аб грамадзянскіх і палітычных правах (МДГПП).

У апошнія два тыдні беларускія ўлады зачынілі дзевяць апазіцыйных выданьняў. Дзяржаўны камітэт па справах друку выдаў пастанову, якая анулюе ліцэнзіі дзевяці выданьняў, нібыта за непрадастаўленьне дакументаў аб наяўнасьці адрасу. Пад дзеяньне пастановы патрапілі "Наша Свабода" (пераемніца газеты "Навіны") і "Кур'ер Навагрудзкі", а таксама іншыя выданьні. Яшчэ адной газеце пагражае закрыцьцё нібыта па прычыне парушэньня падаткавага заканадаўства. Гэтыя дзеяньні ўладаў працягваюць кампанію ціску на іншыя незалежныя выданьні, няўрадавыя арганізацыі і палітычную апазіцыю, пад час якой мелі месца неабгрунтаваныя затрымкі і зьнікненьні людзей.

Злучаныя Штаты заклікаюць Беларусь спыніць рэпрэсіі ў дачыненьні да незалежнай прэсы і строга захоўваць тыя абавязацельствы, якія рэспубліка добраахвотна ўсклала на сябе ў выніку ўступленьня ў АБСЕ і далучэньня да дамовы МДГПП, а таксама ўзнавіць у сябе тыя дэмакратычныя пераўтварэньні, якія маюць месца ў краінах-суседзяў.

# Прэса пад прэсам

(Пачатак на стар.1)

Але калі над першай незалежнай беларускай газетай "Свабода" навісла пагроза закрыцьця, адразу ж было аб'яўлена, што замест яе падпісчыкам і чытачам будзе паступаць газета "Навіны". Калі ж і "Навіны" атрымалі два папярэджаньні лукашэнкаўскага Дзяржкамдруку, і закрыцьцё стала рэальна-блізкім, рэдакцыя аб'явіла, што пераемніцай "Навінаў" стане газета "Наша Свабода"...

Пра тое, якім чынам улады расправіліся з незалежнай газетай "Навіны", мы падрабязна пісалі ў мінулым нумары "ПРАВА на ВОЛЮ". Так, "Навіны" былі зачыненыя. Але "Наша Свабода" таксама ня выйшла. І сёлета, хутчэй за ўсё, ужо ня выйдзе... На "вынаходлівасьць" апазіцыі ўлады знайшлі "достойны" адказ. Дзяржаўны камітэт па друку РБ прызнаў пасьведчаньне аб рэгістрацыі газеты "Наша Свабода" несапраўдным. Адначасова ануляваныя пасьведчаньні яшчэ васьмі незалежных выданьняў. Падставай дзеля гэтага стала "выбарачная (заўважце гэтае слова) праверка матэрыялаў рэгістрацыі перыядычных выданьняў", якая "выявіла, — цытуем далей загад Дзяржкамдруку, — што пры ўтварэньні шэрагу друкаваных сродкаў масавай інфармацыі не былі прадстаўленыя дакументы аб узгадненьні разьмяшчэньня перыядычных выданьняў з адпаведнымі мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі". Што гэта азначае? Як патлумачыў адзін з супрацоўнікаў Дзяржкамдруку, да заявы аб рэгістрацыі выданьня, у ліку іншых дакументаў, павінны прыкладацца матэрыялы аб узгадненьні размяшчэньня гэтага СМІ (месцазнаходжаньне заснавальніка, рэдакцыі, выдаўца і распаўсюджвальніка) з адпаведнымі мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі — райвыканкамам... Раней існавала практыка, пры якой Дзяржкамдрук не патрабаваў такіх дакументаў ад заснавальнікаў СМІ, што рэгістраваліся ў Мінску. Але вось у сувязі з "Нашай Свабодай" яго прыгадалі. А заадно забаранілі яшчэ восем выданьняў. Так і ня выйшаў, скажам, першы нумар часопіса "Кур'ер", які ўжо быў падрыхтаваны да друку, так і не пабачыў сьвятла тыднёвік "Белорусские новости", які вырашыла выдаваць інфармацыйная кампанія "БелаПАН"... Зразумела, што гэтыя выданьні пацярпелі "за кампанію", у якасьці, так бы мовіць, плюралізму і даважку да "Нашай Свабоды", але "выбарачна" пацярпелі, заўважым, выключна незалежныя выданьні, хоць гэты самы пункт пра неабавязковасьць "узгадненьня" ужываўся да ўсіх аднолькава. Што ж, як казалі ў савецкія часы — супраць лому няма прыёму...



Леташні марш пратэсту незалежных журналістаў...

Тую сьпешку, гарачку, звышаператыўнасьць, якую праявілі ўлады пры закрыцьці "Навінаў" і забароне "Нашай Свабоды", незалежныяназіральнікі і журналісты зьвязваюць з арганізацыяй "Марша свабоды", які апазіцыя плануе правесьці 17 кастрычніка. Роля незалежнага друку ў апаратыўным абвяшчэньні грамадзянаў Беларусі аб месцы і часе акцыі, у закліку да ўдзелу ў ёй ва ўмовах поўнага закрыцьця доступу для апазіцыі да афіцыйных выданьняў, радыё і тэлебачаньня — звышвысокая. Фактычна, незалежны друк у Беларусі застаўся адзінай крыніцай аб'ектыўнай інфармацыі пра становішча ў краіне. Лукашэнкаўскія СМІ дзень і ноч трубяць пра небывалыя посьпехі ў эканоміцы, пра няўхільны рост дабрабыту людзей... і пра апазіцыю, якая на грошы Захаду ды Расіі хоча ачарніць гэтыя "дасягненьні". У народа, які на справе бачыць зусім іншае, галава ідзе кругам. Але трэба ведаць савецкага чалавека, які прывык верыць "друкаванаму слову", а не сваім вачам... Вось таму Лукашэнка з першых дзён свайго прэзідэнцтва і распачаў беспрэцэдэнтную барацьбу з вольным, незалежным словам. Вось таму першым яго крокам была расстаноўка "сваіх людзей" кіраўнікамі радыё, тэлебачаньня, буйнейшых газетаў, а таксама закрыцьцё незалежных тэлеканала, радыёстанцыі і шэрагу выданьняў. І барацьба гэтая працягваецца па сёньня. Сякера закрыцьця вісіць над мінскай газетай "Беларуская маладзёжная" (выходзіць замест закрытага радыёканала), гарадзенскай газетай "Пагоня"... Каб не сурочыць, ня будзем называць іншыя. Але пагрозу гэтую адчулі нават самыя рэспектабельныя, калі можна ў нашай сітуацыі ўжываць гэтае слова, "Белорусская деловая газета" і "Белорусская газета".

Каманда журналістаў "Навінаў" ("Нашай Свабоды"), так і хочацца сказаць — загартаваная ў барацьбе, не думае разьбягацца, разыходзіцца па іншых выданьнях. Пакуль "Навіны" будуць выходзіць у электронным варыянце, у Інтэрнэце. Не выключаныя і гэтак званыя падпольныя выпускі газеты. Бо рэгістрацыя новага выданьня ў Беларусі можа заняць ад месяца да паўгода і далей да бясконцасьці. Сітуацыя ў іншых "выбарачна" забароненых выданьняў не прасьцей. Ня дзеля таго іх забаранялі, каб потым лёгка зарэгістраваць.

Дзяржава, якая заганяе апазіцыйны друк у падпольле, ня можа лічыцца дэмакратычнай. Гэта аксіёма.

**Андрэй НАЛІВА**

# І ПРАВААБАРОНЦЫ — БЕЗАБАРОННЫЯ...

## ПЕРАД БЕЗЗАКОНЬНЕМ, ЯКОЕ ЎЧЫНЯЮЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ЎЛАДЫ

***4 кастрычніка ў кватэру на вул. Кісялёва ў Мінску, дзе месьціўся Праваабарончы Цэнтр "Вясна", уварваліся супрацоўнікі Цэнтральнага РАУСу і людзі ў цывільным. Захоп кватэры адбыўся ў той самы час, калі там сабраліся бацькі маладых людзей, якія загінулі на Нямізе 30 траўня. Бацькі загінулых прыйшлі сюды, каб сустрэцца з журналістамі-укладальнікамі дакументальнай кнігі, прысьвечанай падзеям на Нямізе.***

Пра тое, што адбылося 4 кастрычніка на вул.Кісялёва я распавяду як непасрэдная ўдзельніца падзеяў. Мы доўга рыхтаваліся да сустрэчы з бацькамі загінулых на Нямізе дзяцей. Гэтая сустрэча была вельмі важная для нас — тых супрацоўнікаў "Вясны", хто з першых дзён пасьля трагедыі на Нямізе пачаў працу над дакументальнай кнігай, прысьвечанай гэтай жудаснай падзеі.

Да трагедыі 30 траўня ў грамадзтве дагэтуль існуе неадназначнае стаўленьне. Шмат хто гаворыць "не хадзілі б піць бясплатнае піва, былі б жывыя". Гэта зьвязана з тым, што вельмі часта людзі не жадаюць заўважаць відавочнае, асабліва тое, што ня тычыцца іх асабіста.

Прайшло дастаткова часу пасьля трагедыі на Нямізе, але шмат пытаньняў так і засталіся адкрытымі — сьледзтва ня скончанае, улады адмаўляюцца ўшаноўваць памяць загінулых маладых людзей. Цынізм асобаў, далучаных да ўлады, ня ведае межаў. Так, у размове з журналісткай Натальляй Радзінай ("Навіны", 10. 08. 1999 г.) галоўны архітэктар г.Мінску, Аляксандр Чадовіч сказаў: "Чаму чужыя людзі павінны памятаць гэтыя імёны. Гэта вельмі асабістае. (...) Што адбылося тут?

Дзікі сумны выпадак. Яго трэба забыць хутчэй і перш за ўсё сваякам. (...) Калі мы зьмесьцім дошку з імёнамі, што яны скажуць незнаёмым людзям? Саша, Вольга, Леначка...".

Ушанаваць памяць належным чынам для гарадзкіх уладаў, відавочна, раўназначна прызнаньню сваёй віны ў сьмерці маладых людзей.

Дакументальная кніга пра Нямігу павінна расказаць праўду пра падзеі 30 траўня і ўшанаваць памяць загінулых. Таму 4 кастрычніка бацькі і журналісты сабраліся, каб абмеркаваць праект будучай кнігі. Георгі Васільевіч Філончык, унучка якога Марына Бібіла, студэнтка БДУ, загінула на Нямізе, сказаў: "Будзе добра, калі такая кніга выйдзе. Таму што дзеці, якія загінулі, былі безаабаронныя пры жыцьці і засталіся такімі пасьля сьмерці. Гэта былі таленавітыя людзі, людзі XXI стагоддзя, але яны яшчэ не пасьпелі сябе праявіць".

Менавіта пра гэта гаварылі мы 4 кастрычніка. І раптам ў дзьверы пазванілі. Я пайшла адчыняць. Паглядзела ў вочка і ўбачыла маладога хлопца ў майцы з кароткімі рукавамі. Адчыніла і спытала: "Вы да каго?" І тут збоку выляцелі людзі ў міліцэйскай форме. Яны літаральна ўварваліся ў кватэру і ўсё гэта нагадвала захоп небясьпечных тэрарыстаў. З крыкамі: "Ну што, лістоўкі друкуем? Чыя гэта кватэра? Прад'явіце дакументы!"

Варта адзначыць, што гэта былі супрацоўнікі менавіта Цэнтральнага РАУСу г.Мінску, таго самага, на тэрыторыі якога адбылася трагедыя. "А дзе вы былі, калі гінулі нашыя дзеці?" — пыталіся ў іх бацькі. Адзін супрацоўнік міліцыі адказаў, што быў у адпачынку, другі заявіў: "Мае дзеці туды не хадзілі, таму засталіся жывымі!" Ня ўсе з бацькоў пагадзіліся паказаць свае дакументы. "Мы нічога злачыннага ня робім!" — казалі яны. "А можа быць, вы бомбу рыхтуецеся закласьці", — адказвалі ім міліцыянты. Урэшце, яны патлумачылі свой візіт тым, што паступіў папераджальны званок ад жыхароў дому па вул.Кісялёва пра тое, што ў адной з кватэраў зьбіраюцца людзі, магчыма, тэрарысты. Па словах супрацоўнікаў міліцыі, "агляд" кватэры зьвязаны з "абвастрэньнем сітуацыі ў саюзнай дзяржаве" — Расіі. Менавіта ў сувязі з гэтым "абвастрэньнем" супрацоўнікі міліцыі ўзялі тлумачальныя ня толькі ў журналістаў-укладальнікаў будучай кнігі, але нават і ў бацькоў доктара Алы Мельнікавай, якая загінула на Нямізе, ратуючы людзей. Бацькі маладой жанчыны-урача (якая, дарэчы, працавала ў шпіталі Міністэрства унутраных справаў) заставаліся ў кватэры падчас "агляду", які праводзілі супрацоўнікі міліцыі і людзі ў цывільным (з кожнай хвілінай іх у кватэры станавілася ўсё больш). Чалавек у майцы з кароткімі рукавамі спрабаваў выцягнуць касету з майго дыктафону і ўвесь час нагой адчыняў дзьверы пакоя, дзе я гаварыла з бацькамі. На пытаньне: "Хто ён такі?", людзі ў форме адказалі — "стажор". "Стажор" увесь час спрабаваў, то адчыніць шафу, то прагледзець файлы ў кампутары. "Не зьвяртайце на іх увагі, — параіла мне маці ўрача, — Хіба вы не разумееце — гэта нашая рэчаіснасьць!"

"Агляд" кватэры з элементамі вобшуку працягваўся з 18 да 22 гадзінаў. Падчас яго на Кісялёва прыбылі людзі ў цывільным, якія адмовіліся назвацца, але ў адным з іх прысутныя пазналі першага намесьніка міністра унутраных справаў Міхаіла Удовікава. У выніку "агляду" кватэры былі канфіскаваныя два кампутары, два прынтары, сканер, ксеракс, мадэм і ўсе нумары бюлетэняў "ПРАВА на ВОЛЮ" на трох мовах. Чалавек у цывільным рабіў відэазапіс "агляду".

Варта адзначыць, што канфіскаваная тэхніка зьяўляецца маёмасьцю ЗША (знаходзілася ў "Вясьне" у арэндзе). Тэхніку не вярнулі і пасьля таго, як старшыня Праваабрончага Цэнтру "Вясна" накіраваў у пракуратуру Цэнтральнага раёну г.Мінску скаргу на неправамоцныя дзеяньні супрацоўнікаў міліцыі, і нават пасьля таго, як амбасада ЗША зьвярнулася ў Міністэрства замежных справаў Беларусі з патрабаваньнем вярнуць канфіскаваную тэхніку праваабаронцам. Тэхніку пакінулі ў міліцыі для правядзеньня "экспертызы".

Падзеі 4 кастрычніка на вул. Кісялёва — чарговае сьведчаньне таго, што праваабарончы рух у Беларусі адчувае пастаянны ўціск з боку афіцыйных уладаў. Апрача таго, гэтыя падзеі маюць непасрэдныя адносіны да перамоваў паміж уладай і апазіцыяй. Старшыня ПЦ "Вясна" Алесь Бяляцкі узначальвае экспертную групу па правах чалавека. У памяці кампутараў знаходзілася інфармацыя пра палітычных вязьняў у Беларусі і маніторынг парушэньняў правоў чалавека.

**Паліна СЬЦЕПАНЕНКА**



# Права сілы, а не сіла права

## У беларускай правінцыі пануе самавольства і самадурства мясцовых уладаў, якія карыстаюцца панібрацтвам, беспакаранасьцю і ўсёдазволенасьцю...

***Гэтую гісторыю распавёў Юры Гіль, які зьвярнуўся па дапамогу ў грамадзкую прыёмную Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96". Тое, што з ім здарылася, яшчэ раз пацьвердзіла, што нашай краіне яшчэ вельмі далёка да прававой дзяржавы, у якой паважаюцца правы кожнага грамадзяніна, дзе пануе сіла права, а не права сілы, дзе дзяржава абараняе асобу ад свавольства сваіх прадстаўнікоў. Гэты выпадак яскрава засьведчыў стаўленьне цяперашніх уладаў да беларускай культуры і людзей, што зьяўляюцца яе носьбітамі.***

Спадар Юры Пятровіч Гіль стала жыве ў Вільні, дзе ўзначальвае мясцовае адзьдзяленьне Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Віленскага краю Літоўскай Рэспублікі. Апроч таго, спадар Юры Гіль зьяўляецца дэпутатам "вальдзібе"— органа мясцовага самакіраваньня Віленскага раёну. Зьвярнуцца ў ПЦ "Вясна-96" сп. Гіля прымусіла здарэньне, што адбылося з ім на тэрыторыі Беларусі,і адбылося, па ягоных словах, зусім невыпадкова.

Справа ў тым, што ад бацькоў у спадчыну Юры Пятровічу засталася невялікая хата ў вёсцы Вашунава, што ў Докшыцкім раёне Віцебскай вобласьці. У гэтай хаце сп. Гіль разам са сваімі аднадумцамі заснавалі гісторыка-этнаграфічны музей, які атрымаў назву "Засьцянковая хатка". Музей стаў структурнай адзінкай ТБМ. У ім часта ладзіліся фальклёрныя сьвяты, на якія з розных куткоў Беларусі прыязджалі людзі, што цікавяцца спадчынай роднай зямлі. На гэтыя сьвяты запрашаліся фальклёрныя гурты, у тым ліку і беларусаў Віленскага краю з суседняй Літоўскай Рэспублікі. Людзі сьпявалі народныя песьні, сьвяткавалі народныя сьвяты па старых, часам ужо забытых, беларускіх традыцыях.

Варта адзначыць, што ўсе экспанаты музею сп. Юры зьбіраў сам і ўвесь клопат аб ім таксама цалкам клаўся на ягоныя плечы. Здавалася б, гэта павінна толькі радаваць мясцовыя ўлады. Аднак не. Асьветніцкая дзейнасьць сп. Ю. Гіля не спадабалася кіраўнікам калгасу і міліцыі. Навошта беларускім сялянам ведаць свае карані, узгадваць старыя традыцыі, што пайшлі ў зямлю разам з іх носьбітамі – дзядулямі ды бабулямі? Няхай лепш вяскоўцы сьпіваюцца ды працуюць за мізэрныя грошы ў сваіх калгасах. Так будзе прасьцей імі кіраваць, лягчэй іх запалохваць і трымаць у пакоры.



Супраць музея пачаліся рознага кшталту правакацыі. Сталі пагражаць і самому сп. Гілю. Адной з прычынаў такой нелюбові стала яшчэ і тое, што па суседзтву з хаткай-музеем знаходзіўся дом аднаго з мясцовых начальнікаў. У ім любілі зьбірацца на свае гулянкі прадстаўнікі мясцовай "вертыкалі": старшыня калгасу ды іншыя. Зразумела, што лішнія вочы мясцовым "чырвоным феадалам" былі непатрэбныя.

І вось, сёлета, 28 верасьня, ўвечары, калі Юры Гіль вяртаўся дахаты, па дарозе яго нагнала машына старшыні мясцовага калгасу "Чырвоны сьцяг". З машыны выйшлі два чалавекі. Абодвух спадар Гіль пазнаў. Гэта былі страшыня калгасу Гірын і новы малады галоўны аграном, прозьвішча якога сп. Гіль яшчэ ня ведаў. З грубай нецэнзурнай лаянкай і словамі: "Літоўская морда, фашыст, ты сюды не павінен больш прыязджаць! Мы цябе заб'ем!.." — яны пачалі зьбіваць сталага чалавека проста пасярод вёскі. Нападаючыя хацелі зацягнуць сп. Гіля ў машыну, але яму ўдалося вырвацца і зьбегчы да сябе ў хату. Там быў вартаўнік музею — сусед Гіля, пенсіянер Антось Мехавіч. Юры Гіль распавёў яму пра тое, што здарылася. Удвух яны вырашылі зачыніцца ў музеі. Неўзабаве пачуліся грукат у дзьверы і крыкі: "Адчыняйце!". Антось і Юры вырашылі нікога не пускаць. Грукат, пагрозы, брудная лаянка не спыняліся. Раптам пачуўся стрэл. Спадар Юры зразумеў, што хутка "госьці" уварвуцца ў музей і вырашыў схавацца на гарышчы. Неўзабаве ў хату праз зламаныя дзьверы ўскочылі старшыня калгасу Гірын і ўчастковы міліцыянт Якучыц (гэта ён страляў з табельнай зброі). Яны пачалі зьбіваць вартаўніка Мехавіча і патрабаваць, каб той сказаў, дзе Гіль. Пры гэтым яны ўчынілі ў хатцы-музеі сапраўдны пагром: пабілі плафоны, паперакульвалі мэблю...

Асьвяціўшы гарышча ліхтарамі "прадстаўнікі законнай улады" знайшлі там не на жарт напалоханага сп. Гіля. Яму загадалі зьлезьці на дол. Калі сп. Юры зьлез, яго пачалі зьбіваць нагамі. Старшыня калгасу Гірын, галоўны аграном і ўчастковы Якучыц зацягнулі зьнямоглага, зьбітага чалавека ў машыну. За руль сеў старшыня калгасу. Сп. Гіля запіхнулі ўсярэдзіну салону, а па баках селі аграном і участковы міліцыянт. У машыне на шыю сп. Гілю накінулі вяроўку і два здаровыя мужчыны пачалі яго душыць. Невядома чым бы гэта скончылася, каб не парвалася вяроўка. Гілю сталі пагражаць, што завязуць у лес і... яго потым ніхто ня знойдзе. Спадар Гіль сказаў, што

 



зрабіць гэта ім ня ўдасца, бо вартаўнік ведае, куды і хто яго павёз.

Тады гэтыя "бандыты пры ўладзе" вырашылі пакараць сп. Гіля "згодна закону РБ". Адвезьлі ў пастарунак гораду Докшыцы, дзе склалі пратакол пра тое, што ён ішоў па вёсцы п'яны, брудна лаяўся і першы пачаў кідацца на іх. Сьведкамі ў пратаколе былі запісаныя старшыня калгасу Гірын і аграном — тыя хто зьбіваў сп.Гіля.

На наступны дзень сп.Гіля проста з пастарунку адвялі ў суд. Судзьдзя Аршынава не зьвярнула ніякай увагі на тое, што перад ёй стаіць моцна зьбіты, акрываўлены чалавек. Ніяк не адрэагавала яна і на заяўленыя сп.Гілем перад разглядам справы хадайніцтвы аб тым, што ён патрабуе зьвязацца з прадстаўнікам амбасады Літоўскай Рэспублікі, бо зьяўляецца грамадзянінам гэтай краіны, а таксама на просьбу прадаставіць яму адваката. Не заўважыла судзьдзя Аршынава і запісу ў пратаколе, дзе рукой сп. Гіля было напісана, што ён ня згодны з пратаколам і што быў зьбіты. Судзьдзя вынесла пастанову аб прыцягненьні сп.Гіля да адміністратыўнай адказнасьці па арт. 156 КаАП РБ (дробнае хуліганства) у выглядзе адміністратыўнага арышту тэрмінам на 7 сутак...

Бараніць свайго брата пачала сястра сп. Гіля. Яна зьвярнулася са скаргай у пракуратуру Докшыцкага раёну і схадзіла на прыём да пракурора. Выслухаўшы яе расповед, пракурор загадаў звазіць сп. Гіля ў шпіталь і асьведчыць яго на факт нанясеньня цялесных пашкоджаньняў. Пасьля гэтага пракуратура апратэставала пастанову суда і прызначыла разглядзець справу наноў.

Суд быў вымушаны выпусьціць сп. Гіля з-пад арышту пасьля трох сутак зьняволеньня. Здавалася б, праўда адноўленая. Але ніякіх афіцыйных папераў пра здарэньне на рукі сп. Гілю не далі: ні абедзьве пастановы суда, ні пракурорскі пратэст, ні нават вынікі медыцынскага агляду... Нібыта нічога гэтага і не было. Ніхто з боку ўладаў не папрасіў нават прабачэньня ў сп. Гіля, ня кажучы ўжо пра ўзбуджэньне крымінальнай справы супраць самавольства і самадурства калгасных кіраўнікоў ды іх памагатых.

...Такія вось гісторыі здараюцца ў ціхіх беларускіх вёсках. І нішто ня сьведчыць пра тое, што ў бліжэйшы час тут нешта можа зьмяніцца. Людзі простыя будуць адчуваць сябе бяспраўнымі, пакуль існуюць калгасы, пакуль мясцовыя ўлады не абіраюцца і не кантралююцца непасрэдна жыхарамі раёну, вёсак. Яшчэ таму, што мясцовыя суд, пракуратура, міліцыя залежаць ад мясцовай "вертыкалі" і наадварот...

Такія выпадкі будуць паўтарацца бясконца, пакуль ня будуць праведзеныя рэформы мясцовага самакіраваньня. На жаль, трэба прызнаць, што ніякія рэформы немагчымыя пры пануючым сёньня рэжыме А. Лукашэнкі.

**В. СТЭФАНОВІЧ**

# Прафсаюзы выходзяць з "падпольля"...

***Адметнасьцю акцыі пратэсту, якая адбылася ў Мінску 30 верасьня на плошчы Бангалор, зьяўляецца тое, што ўпершыню з 1991 году арганізатарамі падобнага мерапрыемства сталі беларускія афіцыйныя прафсаюзы.***

Федэрацыя прафсаюзаў беларуская (ФПБ) заяўляла, што на мітынг прыйдзе да 50 тысячаў чалавек. Прыйшло прыблізна 15 тысячаў, але справа гэтым разам ня ў колькасьці. Бо добра вядома як улады навучыліся трымаць у страху простых рабочых і тым болей гэтак званых ітээраўцаў. Папярэдне з большасьцю "патэнцыйных" удзельнікаў мітынгу былі праведзеныя гутаркі: палітінфармацыі-запалохваньні. На буйнейшых мінскіх прадпрыемствах, такіх як МАЗ, маторны завод былі аб'яўленыя выходныя. Удзельнікі мітынгу зьбіраліся ў горадзе ў некалькіх месцах і рушылі да плошчы Бангалор калонамі. Па дарозе іх чакалі падрыхтаваныя ўладамі "перашкоды": у крамах прадавалася танная гарэлка, якая даўно ўжо зьнікла з гандлю.

Аднак, у адрозьненьне ад мінулага году, сёлета мітынг-пратэст супраць зьбядненьня і галечы ўсё ж адбыўся. Нагадаем, што летась уладам удалося адгаварыць ФПБ ад арганізацыі мітынгу 2 сьнежня. Абяцаньні, зробленыя прэзідэнтам тады, ня выкананыя і дагэтуль. Як і просьба да рабочых не страйкаваць, пачакаць восені, а дакладна 1 кастрычніка, выказаная прэзідэнтам сёлетняй вясною. Маўляў, да 1 кастрычніка ўдасца пазьбегнуць тых негатыўных тэндэнцыяў, што адбываюцца ў нашай эканоміцы...

А таму мітынг быў прызначаны менавіта на 30 верасьня. Названы прэзідэнтам тэрмін падышоў, а жыць стала яшчэ горш, зусім невыносна. Больш за тое, гэты час прэзідэнт скарыстаў, каб яшчэ мацней запрыгоніць рабочых. Пра гэта сьведчыць падпісаны ім дэкрэт №29 (аб павышэньні працоўнай дысцыпліны) і шэраг іншых дакументаў. Дарэчы, менавіта дэкрэт №29 выклікаў найбольшае непрыняцьце сярод працоўных. Лідэр ФПБ Уладзімір Ганчарык паведаміў на мітынгу, што больш за 300 тысяч чалавек па краіне падпісалі адозву да прэзідэнта аб адмене гэтага дэкрэту...

Такім чынам, прафсаюзная наменклатура ўпершыню за пяць гадоў прэзідэнцтва Лукашэнкі адважылася стаць у апазіцыю да яго. Гэтым яна перасьледавала адразу некалькі мэтаў. Першая — паказаць сваю моц і сілу Лукашэнку, які на гэты раз, у адрозьненьне ад мінулага году, на перамовы з ёй не пайшоў, а наадварот, назваў прафнаменклатуру "жулікамі і п'яніцамі", якія "жыруюць за кошт рабочых". Другая — умацаваць свой уплыў сярод незадаволеных сёньняшнім жыцьцём рабочых і перахапіць ініцыятыву ў свабодных прафсаюзаў. Наколькі гэта ўдалося — пакажа час.

# ...А "вшывыя блохі" страйкуюць

***Менавіта гэтак "вобразна": "вшывымі блохамі" назваў А.Лукашэнка найбольш актыўную частку беларускага грамадзтва — людзей, якія займаюцца бізьнесам, прыватным прадпрымальніцтвам. У гэтым выказваньні сканцэнтраваная ўся ягоная нянавісьць да людзей, якія хочуць жыць незалежна, заможна, шчасьліва. І ня толькі хочуць, але і нешта робяць дзеля гэтага...***

Тая нянавісьць вылілася таксама і ў некалькі пастановаў, указаў і дэкрэтаў, пасьля якіх працаваць прыватным прадпрымальнікам у Беларусі стала немагчыма. Паводле аднаго з іх — дэкрэта №14, які пачаў дзейнічаць з 1 верасьня г.г., увесь тавар у прыватнага прадпрымальніка можа быць канфіскаваны без суда і сьледзтва, калі ў яго няма сертыфікату якасьці на ўсе віды рэалізуемых тавараў альбо даведкі пра тое, дзе ён набыў валюту... Але ж валюту ў беларускіх банках сёньня набыць немагчыма, а каб атрымаць сертыфікат якасьці трэба з месяц абіваць парогі розных чыноўнікаў.

Таму 1 верасьня застрайкавалі прадпрымальнікі рэчавых рынкаў большасьці гарадоў Беларусі. Прычым страйк быў абвешчаны бестэрміновым — да таго часу, пакуль Лукашэнка не адменіць ці не перагледзіць свае дэкрэты. На 6 верасьня страйкавала 73 працэнты беларускіх рэчавых рынкаў.

Але, на жаль, кіраўнікі гарадзкіх саюзаў прадпрымальнікаў не змаглі паразумецца між сабою і скаардынаваць сваю дзейнасьць. Агульнадзяржаўнай масавай бестэрміновай акцыі не атрымалася. Пасьля 10 верасьня большасьць мінскіх гандляроў выйшла на рынкі. Даўжэй за ўсіх, да 1 кастрычніка, трымаліся гарадзенцы...

Кіраўнікі прадпрымальніцкага руху сьцьвярджаюць, што яны не адмовіліся ад мэты дабіцца адмены дыскрымінуючых дэкрэтаў. Пра гэта сьведчыць і аднадзённы страйк, які адбыўся на беларускіх рэчавых рынках на пачатку кастрычніка. Аднак, відавочна, дзеля гэтага ім трэба аб'яднацца ў адзіны прафсаюз, каб скаардынаваць свае намаганьні.



 

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*30 верасьня* ў Віцебску на плошчы Леніна мясцовыя арганізацыі Свабодных прафсаюзаў правялі мітынг пратэсту супраць пагаршэньня умоваў жыцьця і працы людзей. Падчас мітынгу міліцыянты забаранілі сакратару Віцебскай Рады БНФ Івану Марозаву разгарнуць сьцяг з сімволікай БНФ "Адраджэньне", які зарэгістраваны ва ўстаноўленым парадку. Па заканчэньні мітынгу невядомыя асобы ў цывільным затрымалі настаўніка беларускай мовы сярэдняй школы № 40 горада Віцебска Міколу Яраша толькі таму, што ён меў на галаве стужку з нацыянальнымі колерамі (бел-чырвона-белым). Грамадзкія назіральнікі Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96" запатрабавалі ў невядомых асобаў выканаць палажэньні закона аб міліцыі: прадставіцца, паказаць пасьведчаньні і растлумачыць прычыны, па якіх затрымліваецца чалавек. Міліцыянт у форме, які назваўся начальнікам Кастрычніцкага РАУС палкоўнікам Кляцко патлумачыў, што асобы ў цывільным ёсьць ягоныя падначаленыя і затрыманьне Яраша адбываецца дзеля высьвятленьня асобы. Міліцыянты ў цывільным вымушаныя былі прад'явіць пасьведчаньні. Назіральнікі "Вясны-96" запатрабавалі ў міліцыянтаў высьветліць асобу М.Яраша тут жа на плошчы ў ягоных калегаў па працы. М.Яраша ўрэшце адпусьцілі. Ад "Вясны-96" пракурору Кастрычнічкага раёну была накіраваная скарга на неправамоцныя дзеяньні міліцыянтаў.

*30 верасьня* ў Віцебску, пасьля заканчэньня наладжанага Свабоднымі прафсаюзамі мітынгу, быў затрыманы старшыня Віцебскай Рады БНФ Уладзімір Плешчанка. У.Плешчанку затрымалі нібыта за распаўсюджваньне газеты "Народны прэзідэнт", адзін асобнік якой быў знойдзены ў яго. Падчас мітынгу газета "Народны прэзідэнт" была распаўсюджаная сярод прысутных невядомым.

*30 верасьня* на стадыёне «Будаўнік» ў Берасьці адбыўся мітынг, арганізаваны прафсаюзнымі арганізацыямі. Падчас мітынгу міліцыянты паспрабавалі адабраць у кіраўніка Берасьцейскага адзьдзяленьня "Вясны-96" У.Вялічкіна выдадзеныя адзьдзяленьнем бюлетэні "Мяжа". Міліцыянты парвалі пакунак і ў гэты момант на дапамогу У.Вялічкіну прыйшлі ўдзельнікі мітынгу. Міліцыянты адступілі і бюлетэні Берасьцейскага адзьдзялення "Вясны-96" прысутныя разабралі за некалькі хвілінаў.

*У верасьні* былому прэм'ер-міністру Беларусі і быламу кандыдату ў прэзідэнты Беларусі Міхаілу Чыгіру прад'яўлены новы варыянт абвінаваўчага заключэньня. У ім адсутнічае шэраг абвінавачаньняў, якія выказваліся М.Чыгіру прэзідэнтам А.Лукашэнкам падчас ягоных публічных выступаў па тэлебачаньні. У прыватнасьці першапачаткова сьледзтва планавала прад'явіць М.Чыгіру абвінавачаньне ў крадзяжах у асабліва буйных памерах. Але цяпер сьледзтва прызнала, што ніякіх крадзяжоў не было. Зараз М. Чыгір абвінавачваецца ў тым, што нядбайна ставіўся да сваіх абавязкаў. Акрамя таго, застаўся абвінавачаньні ў злоўжываньні службовым становішчам. Жонка М.Чыгіра – Юлія Чыгір, лічыць, што ўжо праз месяц справа будзе падрыхтавана для слуханьня ў судзе. Нягледзячы на тое, што з М. Чыгіра былі зьнятыя сур'ёзныя абвінавачаньні, яго ня вызвалілі з-пад варты, а, наадварот, працягнулі тэрмін зьняволеньня на месяц.

*4 кастрычніка* аб'явіў галадоўку ў турме Зьміцер Абадоўскі — сын магілёўскага праваабаронцы Сяргея Абадоўскага. Сьледчыя органы абвінавачваюць Абадоўскага-малодшага ў згвалтаваньні, хаця падстаў для гэтага няма, тым больш, што сама "пацярпелая" на сьледчым апазнаньні паказала на зусім іншага чалавека. Абадоўскі-бацька лічыць крымінальнае абвінавачаньне сына спробай пакараць яго самога за праваабарончую дзейнасьць. Сяргею Абадоўскаму было адмоўлена ў праве быць адвакатам-абаронцам сына. З.Абадоўскі, які застаўся без абароны, адмовіўся адказваць на пытаньні сьледзтва і аб'явіў галадоўку... Дарэчы, гэта ўжо другая спроба магілёўскіх сілавых структураў паўзьдзейнічаць на праваабаронцу праз ягоных сыноў. Летась быў арыштаваны другі ягоны сын — Іван, актывіст "Маладога Фронту". З-за пагрозы асуджэньня па крымінальнай справе і турмы за ўдзел у акцыях пратэсту, І.Абадоўскі быў вымушаны эміграваць і прасіць палітычнага прытулку ў Польшчы. І.Абадоўскі атрымаў яго.



**Сабачая служба...**
***(Міліцэйскі патруль суправаджае дэманстрацыю)***

*4 кастрычніка* ў кватэру на вул. Кісялёва ў Мінску, дзе месьціўся Праваабарончы Цэнтр "Вясна" уварваліся супрацоўнікі Цэнтральнага РАУСу і людзі ў цывільным. У гэты час у кватэры знаходзіліся бацькі дзяцей, якія загінулі на Нямізе 30 траўня, якія прыйшлі сюды, каб сустрэцца з журналістамі — укладальнікамі дакументальнай кнігі, прысьвечанай падзеям на Нямізе. Супрацоўнікі міліцыі перапісалі пашпартныя дадзены ўсіх прысутных, узялі тлумачальныя ў журналістаў — укладальнікаў будучай кнігі і некаторых бацькоў. "Агляд" кватэры з элементамі вобыску працягваўся з 18 да 22 гадзінаў. У выніку "агляду" кватэры былі канфіскаваныя два кампутары, два прынтары, сканер, ксеракс, мадэм і ўсе асобнікі бюлетэняў "Права на волю" на трох мовах. Варта адзначыць, што частка канфіскаванай тэхнікі зьяўляецца маёмасьцю ЗША (знаходзілася ў арэндзе).

*У кастрычніку* Праваабарончая арганізацыя Amnesty International заявіла аб намеры абвясьціць шэраг дзеячоў апазіцыі вязьнямі сумленьня, калі яны будуць прызнаныя вінаватымі па адпаведных артыкулах КК РБ. Гэта зьвязана з тым, што ўлады спрабуюць запалохаць апазіцыянераў і пакараць за іх дзейнасьць. У сувязі з гэтым міжнародная праваабарончая арганізацыя заявіла пра сваю гатоўнасьць абвясьціць Алега Воўчака, Ірыну Халіп, Мікалая Статкевіча, Яўгена Асінскага вязьнямі сумленьня, калі беларускае правасуддзе прызнае іх вінаватымі.

*7 кастрычніка* да Старшыні Рэспубліканскага страйкавага камітэту Сяргея Антончыка на вуліцы падыйшоў незнаёмы чалавек у цывільным, які прадставіўся супрацоўнікам КДБ і паказаў службовае пасьведчаньне. Прадстаўнік сьпецслужбаў параіў С.Антончыку схаваць на "два-тры тыдні свайго ста-

"рэйшага сына", таму што ў КДБ ёсьць зьвесткі пра сувязь сына Антончыка з гандлярамі наркотыкаў. Сыну С.Антончыка 21 год, ён працуе інжынерам на заводзе "Эталон". С.Антончык абвяргае версію сьпецслужбаў пра тое, што яго сын мае дачыненьне да гандлю наркотыкамі.




*8 кастрычніка* Мінагарвыканкам пад кіраўніцтвам Уладзіміра Ярмошына разгледзеў заяўку на правядзеньне Маршу Свабоды 17 кастрычніка з плошчы Якуба Коласа па праезнай частцы да плошчы Незалежнасьці, дзе мусіць адбыцца мітынг. Паседжаньне праходзіла ў прысутнасьці заяўляльнікаў акцыі, пракурора Мікалая Купрыянава і кіраўніцтва гарадзкой міліцыі. Арганізатарам было заяўлена, што 16-17 кастрычніка ў Мінску будзе праводзіцца кірмаш, а таксама будуць весьціся рамонтныя работы на мосьце каля плошчы Незалежнасьці. Таму мітынг было дазволена праводзіць выключна на плошчы Бангалор. Арганізатары настойвалі на правядзеньні Маршу Свабоды з плошчы Якуба Коласа да плошчы Незалежнасьці, але да іх аргументаў не прыслухаліся.

*4 кастрычніка* старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікола Статкевіч даведаўся, што яшчэ тыдзень таму Мінскі гарадзкі суд задаволіў пратэст сьледчага сп. Коранева, які вядзе крымінальную справу ў адносінах да М. Статкевіча, узбуджаную за ўдзел лідэра БСДП у мітынгу 27 ліпеня г.г. Сп. Каранеў апратэставаў рашэньне суда Савецкага раёну аб пакараньні М.Статкевіча дзесяцьцю суткамі арышту, бо палічыў гэткае пакараньне занадта мяккім. І вось цяпер М.Статкевіч можа быць пакараны за адно і тое ж "злачынства" двойчы. Сам М. Статкевіч лічыць, што ўлады проста хочуць запалохаць яго, "узяць на кручок" перад "Маршам Свабоды", які прызначаны на 17 кастрычніка.

*5 кастрычніка* Дзяржкамдрук накіраваў галоўным рэдактарам газетаў і часопісаў, якія знаходзяцца на дзяржаўнай датацыі рэкамендаваныя падпісныя кошты на першы квартал 2000 году. Прыкладны кошт выданьняў, з улікам інфляцыі, прывёў галоўных рэдактараў да шоку. Скажам, адзін нумар часопісу "Мастацтва" "арыентыровачна" павінен каштаваць ня менш за 2 мільёны рублёў (4 даляры ЗША). І гэта пры сярэднямесячным заробку работнікаў культуры і мастацтва, якім ён прызначаны, у 10-15 мільёнаў рублёў (20-30 даляраў)... На думку журналістаў, гэты крок Дзяржкамдруку тлумачыцца жаданьнем увогуле пазбавіцца ад датуемых выданьняў, бо вельмі мала хто здолее выпісваць іх па такім кошце. Варта адзначыць, што сярод выданьняў, якія знаходзяцца на дзяржаўнай датацыі, большасьць складаюць беларускамоўныя выданьні. І таму закрыцьцё можа датычыць найперш іх. Бо іншыя датуемыя выданьні, такія як прэзідэнцкая газета "Советская Белоруссия" альбо "Народная газета", "Беларусская нива" ды іншыя, даўно самыя танныя ў Беларусі. І кошты на іх істотна павышаць ніхто не зьбіраецца. Як і здымаць з поўнага дзяржаўнага забесьпячэньня.

*8 кастрычніка* ў Беларусі быў апублікаваны праект Дамовы аб саюзнай дзяржаве — аб'яднаньні Беларусі з Расіяй. Першапачаткова праект павінен быў быць надрукаваны 1 кастрычніка, але напярэдадні А.Лукашэнка выступіў па нацыянальным тэлебачаньні і назваў прапанаваны расійскім бокам варыянт дамовы "пасьмешышчам"... Аднак праз тыдзень без ніякіх зьменаў праект дамовы быў надрукаваны... Дарэчы, толькі на рускай мове. А гэта таксама шмат пра што гаворыць. Улады апамяталіся і надрукавалі тэкст дамовы па-беларуску толькі праз тыдзень...

*8 кастрычніка* суд Ленінскага раёну г.Мінску адхіліў хадайніцтва аб вызваленьні з-пад варты дэпутата Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Андрэя Клімава. Хадайніцтва падаваў вядомы ў Беларусі адвакат, грамадзкі абаронца А.Клімава, Гары Паганяйла. Адхіліўшы хадайніцтва судзьдзя Вера Тупік заявіла, што А.Клімаў абвінавачваецца ў сур'ёзным злачынстве, а цяжкасьць гэтага злачынства дае права ўтрымліваць А.Клімава пад вартай.

*9 кастрычніка* на мінскім стадыёне "Дынама" пад час футбольнага матчу Беларусь-Італія супрацоўнікамі міліцыі былі зьбітыя і затрыманыя каля 30 чалавек моладзі, якія прыйшлі на стадыён з нацыянальнымі бел-чырвона-белымі сьцягамі.

*У кастрычніку* працягваецца судовы працэс па справе былога міністра сельскай гаспадаркі Беларусі Васіля Лявонава. Справа В.Лявонава — адзін з нешматлікіх судовых працэсаў, на якім сьведкі з боку абвінавачаньня выказваюцца на карысьць падсуднага. Шматлікія былыя супрацоўнікі В.Лявонава далі яму найлепшыя характарыстыкі, хаця людзі, якія гэта сьведчылі, адзначалі, што такія паказаньні могуць негатыўна адбіцца на іх будучыні.

*12 кастрычніка* больш за дваццаць студэнтаў Гродзенскага дзяржаўнага ўнівэрсітэта імя Янкі Купалы, прадстаўнікоў розных факультэтаў і розных курсаў, падчас правядзеньня справаздачна-выбарчай канферэнцыі студэнцкага прафсаюза, парвалі сяброўскія білеты афіцыйнага студэнцкага аб'яднаньня. Акцыя адбылася на вачах каля сотні дэлегатаў канферэнцыі і кіраўнікоў ВНУ. Удзельнікі акцыі пратэсту зачыталі зварот да студэнтаў ГДУ, раздавалі газету пад назовам "Бунтуйма!", а таксама заклікалі юнакоў і дзяўчатаў далучыцца да створанага год таму Свабоднага прафсаюзу студэнтаў.

*12 кастрычніка* адбылася сустрэча першага намесьніка міністра ўнутраных справаў, начальніка міліцыі генерала-маёра Міхаіла Удовікава з прадстаўнікамі беларускіх і замежных СМІ. М.Удовікаў, апрача ўсяго, заявіў журналістам: "У самы бліжэйшы час вы зможаце даведацца пра вельмі цікавыя падрабязнасьці, зьвязаныя са зьнікненьнем Ганчара і Красоўскага. Больш нічога не магу сказаць. Чакайце!" Чакаем...

*У кастрычніку* прадстаўнікі Грамадзкай камісіі па расьсьледваньні факту зьнікненьня былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі — каардынатар Лігі афіцэраў міліцыі Беларусі (ЛАМ) Уладзімір Арыстаў і былы сьледчы пракуратуры Алег Воўчак былі прынятыя сьледчым Мінскай гарадзкой пракуратуры Сьвятланай Байкавай, якая вядзе крымінальную справу па факце зьнікненьня Ю.Захаранкі. У выніку сустрэчы яе удзельнікі прыйшлі да высновы пра магчымасьць ўзаемадзеяньня.

*14 кастрычніка* ў інтэрв'ю газеце "Народная воля" старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Мікалай Статкевіч абгрунтаваў неабходнасьць правядзеньня Маршу Свабоды 17 кастрычніка наступным чынам: "У рэшце рэшт мы зьвяртаемся да людзей: давайце зьбярэмся разам і паглядзім, колькі нас — тых, хто не баіцца, хто гатовы змагацца? Калі колькасьць такіх людзей будзе дастаткова вялікай, гэта будзе сур'ёзнай нагодай для роздуму, у першую чаргу для ўладаў".

*У кастрычніку* ў Беларусі афіцыйна закончылася перарэгістрацыя палітычных партыяў і грамадзкіх аб'яднаньняў. Па яе выніках перарэгістрацыю не прайшлі дзьве палітычныя партыі — Партыя здаровага сэнсу і Хрысьціянска-дэмакратычны партыя, а таксама 211 няўрадавых арганізацыяў, самая буйная і ўплывовая сярод якіх — Беларуская асацыяцыя маладых палітыкаў, якую ўзначальвае Анатоль Лябедзька.

**Матэрыялы падрыхтаваныя Інфармацыйным аддзелам "Вясны-96"**

Міхал КУКАБАКА

# Накід з натуры



Міхаіл КУКАБАКА

## З гісторыі так і не напісанага аповеда

Кажуць, што ў сталінскіх лагерах былі людзі, якія паміралі, праслаўляючы свайго ката. Такія людзі былі і ў савецкіх лагерах больш позьняга часу. Ва ўмовах няволі, адсутнасьці аб'ектыўнай інфармацыі чалавека лёгка можна "выхаваць". Можна штучна навязаць яму любыя пераканаьні. Працэс прасьвятленьня можа быць вельмі балючым. Аднак, людзі "вылечваюцца". Паступова, крок за крокам, вызваляючыся ад навязаных ім стэрэатыпаў мысьленьня. Часам, не без камічных выпадкаў.

Сутыкнуўшыся з рэальнасьцю, якая груба супярэчыць ягоным пераканаьням, чалавек нярэдка паказвае цуды вынаходлівасьці, каб вырашыць супярэчнасьць, "ня здраджваючы прынцыпам", г. зн. без рэвізіі ўласных поглядаў. Вось гэткую "падгонку" пад "зададзены адказ" я і хацеў неяк паказаць у сваім расповядзе.

Тут амаль нічога ня выдумана. Рэальныя асобы, падзеі і нават ацэнкі характараў. І любы з названых тут, мог бы сябе пазнаць. Выдуманыя толькі клічкі-псеўданімы. У палітлагеры яны не прыжыліся, бо там гэта не прынята.

Мы ўсе былі вельмі рознымі людзьмі. На мой погляд, ідэалагічныя, духоўныя межы-адрозьненьні ў нас былі глыбей, чым сярод зьняволеных бытавых (крымінальных) лагераў.

Мы былі рознымі па ўзроўню адукацыі, культуры і шмат чым іншым. І знаходзіцца разам у цеснай прасторы было нялёгка. Бо мы ж людзі, а ня ангелы. Становішча ўзмацнялася правакатарскай дзейнасьцю КДБ. "Органы" стараліся дабіцца максімальнага маральнага разбурэньня асобы. Нярэдка гэта ім удавалася. Таму што ў сродках яны не саромеліся: подкуп, шантаж, катаваньні і нават забойствы, калі ім гэта было выгодна. А калі невыгодна, маглі трымаць у зьняволеньні пажы-цьцёва, чакаючы "натуральнай" сьмерці. Сьпяшацца ім не было куды. Бацькі адыходзілі на "заслужаны адпачынак", сыны прымалі эстафету. Таму і архівы ад народа ўтойваюцца. Я таксама адчуў пачуцьцё безвыходнасьці. Арыштаванага ў 1978 годзе і асуджанага тры разы, мяне хацелі асудзіць і ў чацьвёрты раз — працягнуць тэрмін зьняволеньня да 2000 году, а там і далей. Гэта быў бы канец...

Міхал Кукабака

*30 верасьня 1990 году.*

Я вярнуўся са "штабу" моцна раздражнёны. І адразу ж, з парогу, пачаў "спавядацца":

— Ды што ж гэта такое робіцца! На мінулым тыдні тройчы спрабаваў адправіць ліст. У першым лісьце пералічыў, што варта дасылаць у бандэролі — канфіскавалі. Чаму? Мауляў, выказваю "зьвесткі, якія не падлягаюць разгалошваньню". Напісаў новы ліст. Пра бандэроль у ім ужо ні слова, абмежаваўся толькі двумя радкамі. Уверсе — "Добры дзень!", унізе — "Да пабачэньня!" Далей дата і подпіс без ніякага тлумачэньня пасярод ліста. Зноў не дагадзіў: "Умоўнасьці ў тэксьце", кажуць. А ў чым "умоўнасьці" і што нельга "разгалошваць" — цэнзар з операм не тлумачаць. Сёньня ў трэці раз ліст канфіскавалі. На чыстым аркушы я паставіў толькі дату і подпіс, без ніякіх "умоўнасьцяў", і ў канверт. А яны? "Падазроны па зьместу", кажуць, і канфіскоўваюць ліст. Прапаную: маўляў, складзіце самі тэкст ліста, а я перапішу і падпішуся. А яны — "Яшчэ чаго захацеў! Мы за цябе не абавязаныя пісаць"... Гэта ўжо сапраўдны зьдзек з чалавека!..

— Ён дагэтуль не зразумеў, што жыве ва ўмовах старажытна-егіпецкага рабства, — пачуўся абыякава-халодны голас. У куце, каля сваёй кармушкі кандыдат філалагічных навук (Філолаг) меланхалічна жаваў пернік і пазіраў на мяне.

"Ну-ну! Балбачы паболей. Нябойсь, старажытна-егіпецкія фараоны не дазволілі б табе пернікі ў ларку выпісваць", — у думках запярэчыў я Філолагу, аднак уелых нічога не сказаў.

— А што ты яшчэ хацеў ад гэтых камуністаў!? — выгукнуў з іншага кута Інжынер і, пэўна, з прыкрасьці ўпусьціў тоўсты даведнік па кібернетыцы на падлогу.

Шпіён адарваў галаву ад дэтэктыва, іранічна агледзеў мяне і, не сказаўшы ні слова, зноў паглыбіўся ў чытаньне.

Трэба адзначыць, што Шпіён гэты быў найсапраўднейшы. Ён працаваў майстрам-будаўніком і па сумяшчальніцтве шпіёнам. А можа, ён працаваў шпіёнам і па сумяшчальніцтве майстрам-будаўніком. Аднак гэта ня мела абсалютна ніякага значэньня. Што і было пасьпяхова даказана сьледзтвам. Шпіён настолькі ўверыўся ў сваю нераскрывальнасьць, што нават не заўважыў, як у яго выпаў нейкі важны дакумент. Дакумент падняў, зразумела, агент КДБ. І Шпіёна накіравалі ў Пермскую вобласьць чытаць дэтэктывы. Роўна на дзесяць гадоў.

Раптам да мяне падыйшоў Маркс. І, зірнуўшы пагардліва на сукамернікаў, упаўголасу сказаў:

— Што гэта вы ўсё на камуністаў валіце? Няўжо варожая прапаганда так вам задурыла мазгі, што вы за дрэвамі лесу ня бачыце?

— А на каго ж мне валіць? Мяне што, французы запхнулі ў гэты лагер? А наконт "варожай прапаганды" — ты гэта кінь! Яе слухаць сабе даражэй абыдзецца. Яе, гэтую прапаганду, так глушаць, што пакуль зразумееш пра што размова, не адзін мільён нярвовых клетак спаліш, а яны, як вядома, не аднаўляюцца, — "бліснуў" эрудыцыяй я.

— Ну, калі ты не надта адурманены чужымі "радыёгаласамі", дык з табою можна будзе пагаварыць. Вось скажы шчыра: у цябе не ўзьнікала выпадкам думка, што ва ўсіх тваіх няшчасьцях нейкім чынам вінаватае ЦРУ?

— Што-о! — абурыўся я, — ты што, зусім з глузду зьехаў ад свайго Маркса?

*(Працяг будзе)*

**Гэтая публікацыя — своеасаблівы ліст з мінулага. Таго, савецкага. Мінулага, пра якое мы, акцябраты ды піянеры, а то і ўжо камуністы амаль ня ведалі. Мажліва, і чулі, што недзе ёсьць "дысідэнты", "змагары з камуністычным рэжымам", "вязьні сумленьня", але хто яны, што з сябе ўяўляюць і тым больш, як жывуць яны "за Палярным кругам" ведалі мала. У бюлетэні "ПРАВА на ВОЛЮ" ужо друкаваліся ўспаміны палітвязьняў — нашых сучасьнікаў. Праўда, "судзілі" іх па крымінальных артыкулах і сядзелі яны ў турмах разам з крымінальнікамі. У савецкія ж часы былі сьпецыяльныя палітлагеры. Нам падаецца цікавым гэты ўспамін Міхаіла Кукабакі пра даўнія гады. А. Лукашэнка ўзяў сабе за арыенцір і планамерна адбудоўвае тую дзяржаву, што была "за Брэжневым", калі і сядзеў у Пермскіх лагерох М. Кукабака. На жаль, паралелі паміж тым, "што было" і "што ўжо ёсьць" у нас сёньня праглядаюцца відавочныя...**

**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96".**
**Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.**
**Адрас рэдакцыі: 220013 Менск, а/с49. E-mail:rights@v96.open.by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**
**Пры перадруку абавязковая спасылка на бюлетэнь.**

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Цэнтру "Вясна-96"*